**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ! ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ: З СЁННЯШНЯГА НУМАРА "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ**

# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 12(223) 24–30 сакавіка 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.

*А калі слова пяройдзе ў дзела,*
*Тагды за праўду станавіся смела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, Народзе, старосці свабодна.*
*К. КАЛІНОЎСКІ.*



**ПОКУПАЕМ МАКУЛАТУРУ ОТ 5 ТОНН.**
Вывезем сами.
Телефоны 8(02133) 3-12-87,
8(02133) 3-45-81 (рабочий),
8(02133) 3-50-39 (домашний).
Свидетельство № 26578, выданное решением Витебского облисполкома №605 от 30 декабря 1996 года.

# 25 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ВОЛІ




Лагічным завяршэннем барацьбы шматлікіх пакаленняў беларусаў за адраджэнне сваёй дзяржавы стала абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Першы Усебеларускі з'езд (снежань 1917 г.) выказаўся большасцю галасоў за права беларусаў самім вызначаць свой лёс. Але такі крок беларусаў уступаў у супярэчнасць з думкай бальшавіцкага ўрада, які быў створаны ў Петраградзе пасля кастрычніцкага перавароту і прагнуў усталяваць сваю ўладу і на Беларусі. Таму Першы Усебеларускі з'езд быў сілай зброі разагнаны, а яго прэзідыум арыштаваны. Але ж з'езд паспеў стварыць выканаўчы орган — Раду — і перадаць ёй паўнамоцтвы.

Бальшавіцкі ўрад не звяртаў увагі на нацыянальныя інтарэсы беларусаў і заключыў 3 сакавіка з Германіяй так званы Брэсцкі мір без удзелу прадстаўнікоў Беларусі. Па гэтаму дагавору большая частка нашай Радзімы перадавалася Германіі. (Напрыклад, Магілёў быў падзелены па Дняпру мяжой на 2 часткі). Таму створаная да гэтага часу Рада БНР не прызнала абавязковым для сябе "Брэсцкі дагавор". Пасля ўцёкаў з Мінску бальшавікоў 19 лютага, улада перайшла ў рукі Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда. У ноч з 24 на 25 сакавіка, на паседжанні Рады БНР было прынята канчатковае рашэнне аб абвяшчэнні незалежнай і вольнай Беларускай Дзяржавы. Адразу ж была зацверджана дзяржаўная сімволіка БНР. Дзяржаўным гербам абвешчана "Пагоня", што бярэ свае вытокі ў глыбокай старажытнасці і яшчэ ў 1295 годзе ў Навагрудку была дзяржаўным гербам ВКЛ, а да гэтага часу — племянным знакам крывічоў. Істотна і тое, што на шчыце конніка з часоў ВКЛ знаходзіцца залатая выява крыжа святой Еўфрасінні Полацкай.

Дзяржаўным сцягам стаў бел-чырвона-белы сцяг. Белы колер з чырвонымі стужкамі — гэта колеры Ісуса Хрыста, а значыцца сімвалы святасці.

Такім чынам, абвяшчэнне БНР стала спробай пасля больш чым стогадовага існавання ў "турме народаў" — Расейскай імперыі, здзейсніць сваё нацыянальнае самавызначэнне. Вось чаму Днём незалежнасці і суверэнітэту Беларусі павінен лічыцца менавіта дзень 25 сакавіка.

Шмат краін прызналі БНР. На жаль, БНР была вымушана існаваць у неспрыяльных знешніх умовах. Нямецкія акупацыйныя ўлады, увайшоўшы ў Мінск (тэрыторыю Беларусі ім падаравалі бальшавікі згодна з Брэсцкім мірам), сарвалі бел-чырвона-белыя сцягі з будынкаў і абвясцілі, што па дамове з Расеяй яны (немцы) узялі абавязак не прызнаваць ніякіх новых дзяржаўных утварэнняў. У далейшым германскія ўлады чынілі ўсялякія перашкоды для дзейнасці органаў улады БНР. З утварэннем БНР ніяк не маглі мірыцца і палякі, і бальшавікі. Але апошнія былі вымушаны лічыцца з імкненнем беларусаў да ўтварэння сваёй незалежнай дзяржавы і стварылі 1 студзеня 1919 года ў Смаленску так званую БССР. Такім чынам без аб'яўлення ў 1918 годзе БНР не было б утварэння БССР, бо да 25 сакавіка бальшавікі наогул не разглядалі пытанне аб Беларускай дзяржаве.

На жаль, сёння, як і ў 1918 годзе, незалежнасць Беларусі зноў апынулася пад пагрозай. Пасля так званага рэферэндуму ў лістападзе 1996 года прэзідэнт і ўрад узялі курс на саюз з Расіяй, дзе ваююць, забіваюць прадпрымальнікаў, не плацяць заробкаў і мараць аб аднаўленні ранейшай імперыі.

*Сяргей РУСЕЦКІ.*

## ЗАСТРАШЫЛІ "ВЕРТЫКАЛЬ"

**БЯРОЗА.** Гнеўныя выпады Аляксандра Лукашэнкі 14 сакавіка напярэдадні "Маршу Свабоды-2" сталі прычынаю таго, што раённыя ўлады адмовілі сябру БНФ "Адраджэнне" Уладзіміру Шусту ў правядзенні 15 сакавіка ў райцэнтры пікета, прымеркаванага да Дня Канстытуцыі. Як звычайна, адказ на заяву быў дадзены з парушэннем устаноўленых тэрмінаў ( не пазней, чым за 5 дзён ды маркуемага мерапрыемства). Яшчэ 14 сакавіка намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Сакалоўскі, на разгляд якога патрапіла заява, не даваў заяўшчыку па тэлефоне ніякага канкрэтнага адказу. Хоць адмова пазначана 13-м сакавіком.

Не далі дазволу на правядзенне 18 сакавіка пікета і сябрам Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ улады горада Белаазёрска.

А вось на правядзенне 25 сакавіка пікета, прысвечанага 82-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, райвыканкам даў дазвол. Пікет пачнецца, як і паўсюдна па Беларусі, а 13 гадзіне. Як заўжды, улады змянілі месца правядзення пікета, адправіўшы пікетоўцаў на гарадскі стадыён.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## При неизвестных обстоятельствах...

**БАРАНОВИЧИ.** Именно с этих слов хозяева квартир и домов часто начинают свое обращение в милицию: дескать, и дверь заперта, и посторонних не было, а вещи, деньги пропали. Именно так из одной городской квартиры исчезли телевизор, пылесос, видеоплейер, утюг, а из другой — пользующиеся ныне повышенным спросом швейные машинки "Zinger".

*Галина СТРОЦКАЯ.*

**ПРОДАЮТСЯ**

☞ Холодильник-морозильник "Атлант" 2000 г. выпуска. Гарантия 3 года. Телефон 2-36-88 (г. Ивацевичи).

☞ Автомобиль "Ауди-100", 1,8, бензин, год выпуска — 1985-й. Стартовая цена — 1.300 у. е. Телефон в Ивацевичах 2-60-38.

☞ Дача в д. Овсто (домик, сарай, приусадебный участок — 0, 28 га, туалет). Телефон в Ивацевичах 2-56-23 (после 18.00).

☞ Мотоцикл "Минск" 1992 г. в. Телефон в Ивацевичах 2-44-43.

☞ Новый видеоплейер "Самсунг" (Корея). Недорого. Гарантия 15 месяцев. Телефон в Ивацевичах 2-33-17.

**КУПЛЮ**

☞ Задвижки; автоматические выключатели АЕ, ВА, АП; контакторы. Телефон в Ивацевичах 2-67-15.

☞ Детскую двухъярусную кровать. Телефон в Пружанах (8-232) 2-08-01.

**ООО "ПРОВИДА"**

со склада в Барановичах реализует металлопродукцию:

— трубы водогазопроводные, оцинкованные, электросварные всех диаметров;
— уголки;
— швеллера;
— листы г/к, х/к.

**г. Барановичи, ул. Брестская, 272. Телефоны (01634) 4-22-41, факс 4-22-40.**

## Пасмяёмся разам з...

*студэнтам Пружанскага сельскагаспадарчага тэхнікума Дзмітрыем Пстыгам:*



Заходзіць алкаш у магазін "Аўтазапчасткі".
— Дайце мне, калі ласка, тармазную вадкасць.
— Няма.
— Тады вадкасць для мыцця шкла.
— Няма.
— Тады хаця б тасол.
— Таксама няма.
— Дык што ў вас з лёгкіх він нічога няма?

## БЭМЗ ліхарадзіць

**БЯРОЗА.** Нягледзячы на палітыку кіраўніцтва краіны на "ўсё глыбейшую інтэграцыю" Беларусі з Расіяй і "ўзнаўленне былых парваных сувязяў" далёка не лепшыя часы перажывае Белаазёрскі энергамеханічны завод. Са снежня мінулага года на прадпрыемстве пачаліся праблемы з выплатаю заробкаў. Працаўнікі атрымалі ў выглядзе авансу невялікія сумы ў аддзяленні "Прыёрбанку", што знаходзіцца на заводзе. Фактычна не атрыманы заробкі за студзень і люты. Каля двух гадоў амаль стаіць эмальцэх, рабочыя якога працуюць прыкладна тыдзень ці некалькі ў квартал, атрымліваючы 75 % тарыфнай стаўкі (мільёнаў пяць у месяц). Заказы ёсць, але ў кліентаў, на жаль, няма грошай.

Не атрымалі дагэтуль студзеньскіх заробкаў і многія працаўнікі Бярозаўскага "Цеплапрыбора". Не нашмат лепей справы і ў бюджэтнікаў. Ужо некалькі месяцаў заробкі настаўнікаў выплачваюцца са значным спазненнем. Напэўна, чытачы маглі б прывесці і іншыя прыклады.

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

## Отсохнет ли рука сорвавшего?

**БАРАНОВИЧИ.** В самом центре города есть сквер памяти погибших воинов-афганцев. Не так давно усилиями воинов-интернационалистов был воздвигнут и своеобразный памятник парням, погибшим за так и не наступившую свободу чужой земли. Огромный камень-валун, на котором выбиты имена 10 погибших барановичских афганцев, а на самом верху — крохотная фигурка падающего человека. И в праздники, и в будни к памятнику приходят люди: сами афганцы, их родные, друзья, знакомые, приводят сюда и школьников — на уроки мужества и патриотизма.

Но нам, нынешним, вернее, многим из нас ничто не свято. Не раз и не два воровали цветы... И вот новый, неслыханный акт вандализма. С памятника сбили фигурку солдата. Она была из бронзы и гоняющиеся за цветными металлами позволили себе вот такое.

Пока эти варвары не найдены, лишь ходят разговоры, что фигурка им все-таки не подошла, они распилили ее и бросили. Афганцы намерены сами разобраться с теми, кто посмел вот так обойтись со святым для них.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Бюджэт пад пагрозай

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Ідзе новы год, і новыя праблемы навальваюцца адна за адной. Затрымліваецца зарплата настаўнікам, медыкам, культработнікам, не хапае сродкаў на медыкаменты і харчаванне школьнікаў. Няма дастатковых сродкаў для фінансавання аўтапарка № 14.

З пачатку года ў раённы бюджэт вельмі мала паступае сродкаў, затое вялікі спіс даўжнікоў. Іх каля 30. У ліку іх 18 калгасаў. Так, калгас імя Чарткова недаплаціў у бюджэт 2196,1тысячы рублёў, імя Кірава — 1176,5, Целяханскае лесагаспадарчае прадпрыемства — 2255,5 тысячы рублёў... А ўсяго калгасы і прадпрыемствы раёна па стану на 1 сакавіка павінны ў раённы бюджэт каля 31 мільёна рублёў.

Не дзіўна. Як "эфектыўна і стабільна" працуем, так і плацім падаткі.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*

## Задаволены і двоечнікі, і выдатнікі

**ПРУЖАНЫ.** Так лічыць дырэктар СШ № 2 У. Я. Цубер. Справа ў тым, што ў 5—8 і 10-х класах ідзе эксперымент па апрабаванні і ўкараненні ў школьную практыку дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў.

Як лічаць у гэтай школе, існуючая пяцібальная сістэма сябе ўжо зжыла. Новая сістэма зараз дазваляе настаўніку станоўча ацэньваць веды былых двоечнікаў, бо адзнакі "1" і "2" цяпер лічацца здавальняючымі, а адзнакі "3" і "4" — здавальняючымі і вельмі здавальняючымі.

У выдатнікаў свае адзнакі — ад "8" да "10". Яны пакуль што не скардзяцца на такую сістэму ацэнкі іх ведаў. Эксперымент працягваецца.

*Алесь ЛЕВАНОВІЧ.*

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Сустрэча з В. Далгалёвым

***Пытанням павышэння прадукцыйнасці працы калгасаў і саўгасаў Брэстчыны была прысвечана сустрэча новага кіраўніка Брэсцкага аблвыканкама Васіля Далгалёва з кіраўнікамі лепшых гаспадарак вобласці, якая прайшла 21 сакавіка ў Брэсце.***

В. Далгалёў адзначыў шэраг непрыемна ўразіўшых яго фактараў: у сельскай гаспадарцы вобласці зніжаецца пагалоўе буйной рагатай жывёлы, самыя нізкія ў рэспубліцы сярэднясутачныя прывагі свінняў, мала закупаюць малака ў насельніцтва і г.д. Як заявіў кіраўнік абласной "вертыкалі", трэба лепш працаваць, каб выправіць становішча. Васіль Далгалёў падкрэсліў, што ён супраць рэфармавання праз далучэнне зямель слабых гаспадарак да моцных.

Слабыя гаспадаркі, як ён лічыць, маглі б здаваць свае землі ў арэнду фінансава ўстойлівым суседзям і тым самым зарабляць грошы ў свой бюджэт.

На нарадзе таксама былі абмеркаваны шматлікія пытанні, якія тычацца вясенне-палявых работ.

## Насустрач з'езду

***Кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) падтрымлівае ідэю правядзення сёлета Усебеларускага з'езда.***

Нагадаем, што з такой ініцыятывай выступіла вялікая група беларускай інтэлігенцыі - прадстаўнікі навукі, культуры, мастацтва.

Мэта з'езда - высветліць стаўленне беларускага грамадства да захавання суверэнітэту і незалежнасці краіны. Цэнтральны камітэт БСДП (НГ) даручыў выканаўчаму бюро партыі стварыць камісію для вядзення кансультацый па пытаннях арганізацыі Усебеларускага з'езда з грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі.

## Прадпрыемствы — стратныя

***У Беларусі рэзка павялічылася колькасць стратных прадпрыемстваў. Студзень 2000 года са стратамі завяршылі 4 490 суб'ектаў гаспадарання - 40 працэнтаў ад агульнай колькасці. У студзені ж 1999-га гэты паказчык быў роўны 27,2 працэнта.***

Асабліва вялікі рост колькасці стратных прадпрыемстваў - у два разы - назіраўся ў прамысловасці (з 17,5 працэнта ў першы месяц летась да 35,6 працэнта ў студзені сёлета), гандлі і грамадскім харчаванні (з 19,3 да 38,3 працэнта). Найбольшая ўдзельная вага стратных суб'ектаў гаспадарання на 1 лютага 2000 года зафіксавана ў невытворчых відах бытавога абслугоўвання насельніцтва (64,7 працэнта ад агульнай колькасці прадпрыемстваў у гэтай галіне) і на транспарце (52,4 працэнта).

## Наведаюць Швецыю

***20 сакавіка група дзяцей беларускіх палітзняволеных і ахвяр палітычных рэпрэсій накіравалася на дзесяцідзённы адпачынак у Швецыю, паведамілі БелаПАН прадстаўнікі праваабарончай грамадскай ініцыятывы "Хартыя '97".***

Групу з дзесяці дзяцей суправаджаюць жонкі зняволеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава.

Гэты візіт падрыхтаваны шведскай арганізацыяй "Unga Ornars Riksforbund" - партнёрам "Хартыі '97". Гэта другая паездка такога кшталту - летась дзеці пацярпелых за палітычныя перакананні наведалі Польшчу.

## Пераходзім на "летні" час

***Як паведамляе Міжведамасная камісія па часу і эталонных частотах рэспублікі, у адпаведнасці з парадкам падліку часу, вызначаным Урадам Рэспублікі Беларусь, на перыяд з 26 сакавіка па 29 кастрычніка 2000 года ў рэспубліцы ўстанаўліваецца "летні" час.***

У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў на тэрыторыі Беларусі ў 2 гадзіны ночы 26 сакавіка пераводзяцца на 1 гадзіну ўперад.

*(БелаПАН).*

*СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ*



*Горячо и сердечно поздравляем дорого мужа и отца Николая Сергеевича САГАНОВИЧА из д. Оброво Ивацевичского района с юбилеем. Желаем счастья, здоровья, благополучия.*

*Полсотни лет, полсотни зим,*
*Как птицы в высоте проплыли,*
*И годы прожитые вмиг,*
*Слегка виски посеребрили.*
*То не беда, что множатся года,*
*Что волосы уже седеют.*
*Пусть будет молода душа,*
*А молодые души не стареют.*

*Жена, дети.*

ПРАШУ СЛОВА

# ХТО ЗНІШЧАЕ НАШЫ БАГАЦЦІ?

***"З неабмежаванай злосцю гэтыя дзікуны знішчаюць мноства дрэваў у лясах планеты, а затым накіруюць сваю жорсткасць на ўсё, што знойдзецца вакол жывога, несучы яму боль і разбурэнне, пакуту і смерць. Ні на зямлі, ні пад зямлёй, ні пад вадой не застанецца нічога некранутага альбо несапсаванага. Вецер разнясе па ўсяму свету пазбаўленую раслiнавага покрыву зямлю і прысыпле ёю рэшткі істот, напаўняўшых калісьці жыццём розныя краіны".***

*Леанарда Да Вінчы.*

Прароцтва, якое халодзіць душу... Але ці так ужо памыляўся Леанарда? Давайце вернемся да гісторыі. Ужо ў пачатку 30-х гадоў для адказных работнікаў партыйнага апарата ствараюцца закрытыя размеркавальнікі, спецсталовыя і спецпайкі. Паступова спектр спецабслугоўвання пашыраецца, ахопліваючы па сутнасці ўсе сферы жыцця і быту: з'яўляюцца спецыяльныя магазіны, асобныя нумары для аўтамашын, асобныя залы чакання на вакзалах і ў аэрапартах, і, нарэшце, спецмогілкі, куды прастаму смяротнаму немагчыма ўвайсці ні жываму, ні мёртваму. Калі б існаваў атэістычны рай, то наменклатура адгарадзіла бы сабе спецмястэчка і там.

Яна (наменклатура) з-за эканамічнай бездапаможнасці, папяровых метадаў кіравання прывяла да катастрафічнага разбухання апарата. Нараджаецца захаваная да нашых дзён практыка замены рэальнай работы стварэннем чарговай камісіі ці ўвядзеннем новай пастановы. Памятаецца, як прымаліся рашэнні аб нарыхтоўцы сена, дапамозе гараджан вёсцы, касьбе няўдобіц... Як гэта забыліся яшчэ з пастановай для жанчын, каб тыя нараджалі дзяцей толькі зімой, бо ўлетку вельмі шмат адказных кампаній!?

Наменклатура не кіруе краінай, а ўладарыць. Няздольнасць багатай рэсурсамі і талентамі краіны пракарміць і апрануць насельніцтва сведчыць аб тым, што краіна страціла магчымасць эфектыўна развівацца.

Дэмакратыя цяжка вяртаецца назад. Асабліва ў вёску. Нараджэння яна тутэйшага, але была выціснута, выгнана бюракратыяй. Цяпер дэмакратыі новая наменклатура кажа: заходзь, калі цябе паслалі, толькі памятай, у нас свае парадкі, хочаш жыць — зміръся.

Вернемся да зямлі. На меліярацыю былая краіна выдаткавала мільярды рублёў. Сельгаспрадукцыі паводле падлікаў спецыялістаў атрымана на суму ў два разы меншую. Цяпер ужо цяжка падлічыць, колькі мільярдаў закапана ў зямлю. Спецыялісты сцвярджаюць, што асушаныя тарфянікі павінны выкарыстоўвацца толькі пад травы і выбарачна пад зернева-травяныя культуры. Гэта патрэбна для таго, каб торф не акісляўся, не "перагараў" і не выдуваўся вятрамі. Тым не менш на тарфяных глебах сеюць збожжавыя, садзяць бульбу.

Многія наменклатуршчыкі (лічы вертыкаль) вершаць бяздумна сваю справу. Маўляў, мне загадалі выканаць план і я гэта раблю, саджу бульбу на тарфяніках і на забруджаных радыенуклідамі землях. Галоўнае, выканаць загад, адрапартавацца перад вышэйстаячым начальствам. Наменклатуршчыку патрэбен імгненны вынік, а потым хоць трава не расці. Таму ён дзеля ўраджаяў травіць глебу хіміяй, гвалтуе лясы, вывозячы маладняк за мяжу. Што пакінем будучым пакаленням, якую зямлю, яго не хвалюе. Думка адна: як бы дагадзіць, але і гэта не атрымліваецца, бо наменклатуршчык не здольны гаспадарыць, а ўмее толькі камандаваць і выконваць папяровыя загады і пастановы. Аднак у гэтым ён ніколі не прызнаецца і ўсе грахі спісвае на развал саюза, пры якім не трэба было надта думаць: няма сродкаў для пасяўной, дасць дзяржава. Так і застаўся ён стаяць з працягнутай рукой. Стаіць і касавурыцца на дэмакратыю. Яе яшчэ і голасу не чуваць, а чыноўнік ёю пужае ўжо народ.

*Алесь МІХАЙЛОЎСКІ.*
*г. Пружаны.*

☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Хто падманвае малаказдатчыкаў?

***— Я трымаю карову і лішкі малака прадаю дзяржаве. На днях нам сказалі, што за літр малака будуць плаціць 45 рублёў. Такая смешная цана за нармальнае, высокай тлустасці малако. Параўнайце яго з магазінным. Там разбаўляюць яго ў два разы і болей і прадаюць па цане ў паўтара раза большай, чым за наша, якаснае. За сто літраў прададзенага малака я не магу купіць нават мяшок мукі ці камбікорму, каб падкарміць тую ж карову. Чаму ж так падманваюць вяскоўца?***

*Валянціна Іванаўна ГОЛУБ,*
*жыхарка в. Быцень.*

**На пытанні жыхаркі в. Быцень В. І. Голуб рэдакцыя папрасіла адказаць эканаміста па цэнах Івацэвіцкага райсельгасхарчу Н. М. КАЛЕСНІКАВУ:**

— Цэны на закуп лішкаў малака ў насельніцтва ўстанаўліваем не мы, — сказала Ніна Мікалаеўна. — Гэта робіць міністэрства мясамалочнай прамысловасці. Я згодна, што цана завельмі нізкая, але ж мы не можам нічога самі зрабіць. Дарэчы, у калгасе "Быценскі" закуп малака ад насельніцтва вядзе сам Івацэвіцкі малаказавод, і, вядома, разлічваецца за прадукцыю. Цана тая ж — па 45 рублёў за літр...

Трывога і абурэнне В. І. Голуб з Быцені, іншых жыхароў раёна, якія скардзяцца ў рэдакцыю на нізкую цану за прадаваемае малако, зусім абгрунтаваныя. Літр самага таннага бензіну ў пяць разоў даражэй, чым літр малака. Ці не парадокс гэта? Атрымліваецца, што лішкі малака жыхарам раёна нявыгадна прадаваць дзяржаве. Затраты на ўтрыманне кароў вялікія, а ад прададзенага малака выручка зусім малая. Дзяржава, па ўсім відаць, не зацікаўлена стымуляваць продаж малака насельніцтвам.

КРЫМІНАЛ

## Сіла ёсць, розум не патрэбен

**ПРУЖАНЫ.** Машына хуткай дапамогі даставіла ў бальніцу 44-гадовага мужчыну ў непрытомным стане. Дыягназ медыкаў такі: закрытая чэрапна-мазгавая траўма, шматлікія сінякі на твары.

Як высветліла следча-аператыўная група, пацярпелага сустрэлі на пустыннай вуліцы імя Чкалава ў Ружанах і бязлітасна адлупцавалі два 29-гадовыя бамбізы. Адзін мясцовы жыхар, раней судзімы, другі — яго сябрук, які прыехаў з в. Гарадзішча Пінскага раёна сюды пагасцяваць. Узбуджана крымінальная справа.

*Алесь САШЫН.*

## Четыре раза в сердце

**БАРАНОВИЧИ.** Было ещё не поздно, около 20 часов вечера. На углу улиц Тельмана—Базисная—Першукевича был обнаружен труп молодого человека с проникающими ножевыми ранениями, четыре из них — в сердце. Позже выяснится, что это Д., 1975 г. р. Его смерть наступила в результате большой кровопотери.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

## Опять фальшивка

**БАРАНОВИЧИ.** В одном из обменных пунктов города молодая особа пыталась сбыть фальшивую 100-долларовую купюру. Но вызванная кассиром милиция не успела задержать девицу. Бросив деньги, та скрылась.

*Полина ГАЛИЕВСКАЯ.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 22.03.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1000—2000 | 1500—2500 | 1000—1800 | 1200—1700 |
| Сала салёнае | 1000 | 1500 | 1200 | 1000 |
| Алей (1 л) | 650—850 | 600—900 | 550—750 | 660—750 |
| Яйкі | 400—450 | 400—500 | 450—500 | 445—460 |
| Малако (3 л) | 250 | 300 | 270 | 260 |
| Тварог | 350 | 400 | 350—400 | 360 |
| Масла сметанк. | 1100 | 1800 | 1000 | 1500 |
| Цыбуля рэпч. | 250 | 150—200 | 200 | 200 |
| Капуста | 80—100 | 90—110 | 150 | 90 |
| Бульба | — | 120 | 100—120 | 95—100 |
| Морква | 200 | 160—250 | 170 | 190 |
| Агуркі свеж. | 800—950 | 800—1200 | 1100 | 1100 |
| Яблыкі | 300—480 | 300—400 | 340—420 | 400—460 |
| Памідоры | 1400 | 1300 | 1100 | — |
| Вінаград | 2500 | 2500 | 2600 | — |
| Грэцкія арэхі | 800—900 | 850 | 850 | 820 |
| Часнок | 1000 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Лімоны | 1000 | 1000 | 1100 | 1100 |
| Апельсіны | 700—750 | 650—800 | 790 | 850 |
| Бананы | 700 | 720—800 | 790 | 850 |
| Мандарыны | 950—1000 | 950 | 990 | 960 |
| Грэчка | 600 | 580 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 270—400 | 300—400 | 280—320 | 270—300 |
| Рыс | 400—430 | 500 | 420—450 | 450—460 |
| Манныя крупы | — | 350 | 350 | 360 |
| Проса | 250 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 260 | 260 | 270 | 270 |
| Мёд | 2.400 | 2.500 | 2.500 | 2.400 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 900 | 930 | 880 | 910 | 900 | 930 | 870 | 920 |
| 1 дойчмарка | 450 | 465 | 440 | 455 | 450 | 465 | 440 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 | 30 | 31 |

СЕМІНАРЫ

## Для сяброў "трэцяга сектара"

У Бярозе адбыўся адукацыйны семінар па асновах палітычнай псіхалогіі для сяброў няўрадавых грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый, на якім кандыдат філасофскіх навук, дэкан факультэта палітычнай псіхалогіі народнага універсітэта філаматаў (г. Мінск) Уладзімір Падгол выклаў распрацаваную ім канцэпцыю структуры посттаталітарнага менталітэту. Нягледзячы на пэўную складанасць для ўспрыняцця шмат якіх навуковых тэрмінаў і суб'ектыўнасць многіх ацэнак выступоўцы, атрыманыя падчас семінара веды і інфармацыя, напэўна, будуць карыснымі і запатрабаванымі прысутнымі ў іх грамадскай дзейнасці.

*Сяржук* РУСЕЦКІ.
*г. Бяроза.*

КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЕЛЕНА, по гороскопу — Козерог. Свободное время провожу в кругу друзей. С удовольствием слушаю современную "попсу" — "Вирус", Андрея Губина. Любимых предметов в школе нет, школу вообще-то не жалую. С большим удовольствием помогаю маме. Обращаю внимание на сильных, красивых, добрых парней. Для меня важно, чтобы они были высокого роста.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"



*СЯРГЕЙ, па гараскопу — Стралец. З вялікім задавальненнем хаджу ў спартыўную залу, дзе займаюся бодыбілдынгам, сачу за навінамі бокса. Кумір мой — Майк Тайсан. Аддаю перавагу музыцы ў стылі рэп, больш за іншыя падабаецца слухаць групу "М. С. Hammer".*

*Лічу, што непрыгожых дзяўчат не бывае. Хоць хацелася б, каб у маёй была спартыўная фігура і дадзеныя 92-60-90.*

ПАВЕДАМЛЯЕ БелаПАН

# ВЛАСТЬ, КОТОРАЯ ОБЪЯВЛЯЕТ ВОЙНУ ТОРГОВЛЕ, ВОЮЕТ С СОБСТВЕННЫМ НАРОДОМ

**Угроза, о которой так давно говорили, материализовалась. 7 марта А. Лукашенко подписал указ № 117 "О некоторых мерах по упорядочению посреднической деятельности при продаже товаров". Те люди, которые зарабатывают себе на жизнь, на содержание семей торговлей, еще не раз вздрогнут от последствий применения положений данного документа. Заниматься бизнесом становится все опаснее для здоровья и собственного кошелька.**

Сам факт принятия указа сейчас, когда правительство вроде как зашло в тупик и должно переосмыслить проводимую вот уже шесть лет экономическую политику, подтверждает тезис о том, что нынешняя старая команда ничего, кроме социализма, родить не в состоянии.

Данный указ наверняка войдет в анналы жесткой борьбы с частной собственностью как набор инструментов по полному подчинению всех видов экономической деятельности чиновнику при сохранении де-юре их самостоятельности. Если иностранный инвестор захочет в концентрированном виде узнать суть правового поля Беларуси, то указ № 117 как нельзя лучше для этого подходит.

Кто такой посредник? Это "юридическое или физическое лицо — резидент Республики Беларусь, осуществляющее торговую посредническую деятельность на территории Республики Беларусь в установленном законодательством порядке". Под посреднической деятельностью понимается оптовая и (или) розничная торговля товарами несобственного производства.

Мне казалось, что каждого, кто стоит между производителем и потребителем, можно назвать посредником. Самым распространенным видом посредника является государственный служащий, который использует сотни приемов, чтобы всячески затруднить прямой диалог производителя и потребителя. Министерства, концерны и их районные и областные структуры, торги, местные органы власти, уполномоченные выдавать разрешения, лицензии, квоты — вот самые дорогие посредники, потому что они не добавляют стоимости, а увеличивают издержки. То, что оптовая и розничная торговля, причем исключительно указанными видами товаров, осуществляется по лицензиям, выдаваемым местными органами власти, не секрет. Даже к штрафу в двукратном размере от полученного дохода за торговлю без лицензии нас уже приучили. Но указ вводит массу отягчающих обстоятельств. Впредь при заключении договоров купли-продажи необходимо указывать "цель (цели) приобретения товаров", что является "существенным условием договора".

Существенным для кого, продавца или покупателя? В Беларуси ни для одного, ни для другого. Ответ — для чиновника, который может проконтролировать целевое назначение каждой приобретенной единицы товара. Не исполнил — получай штраф "на продавца (поставщика) и (или) покупателя в размере 10% от суммы договора". Вступать в договорные отношения становится опасно. К каждому договору надо будет приложить копию лицензии на право торговать оптом или в розницу, а по импортируемым товарам — копию таможенных деклараций (статистических при отношениях с Россией). Пункт 1.2 перечеркнет надежды многих производителей и торговых организаций, которые за счет экспорта могли компенсировать убытки от обязательной продажи товаров по госзаказу по-грабительски низким закупочным ценам.

Отныне "реализация товаров за пределы Республики Беларусь осуществляется при условии выполнения в предыдущем отчетном периоде установленных Совмином Республики Беларусь заказов на поставку товаров для государственных нужд или по квотам". Получается, что правительство может каждому резиденту, в том числе иностранному предприятию, СП, любой частной компании, довести госзаказ по "социальным" ценам и в случае его невыполнения запретить экспорт.

Более того, за недопоставку товаров "в соответствии с квотами Совмина при выполнении покупателем условий договоров купли-продажи" полагается штраф в размере 50% стоимости недопоставленных товаров. В указе очень часто используется фраза "в установленном законодательством порядке". Ее смысл — ограничение прав производителей и торговых предприятий. Производитель может продавать или меняться только с тем, кто использует его товар 1) для собственного производства, и (или) потребления, 2) для переработки на давальческих условиях, а также 3) нерезидентам и резидентам для экспорта и 4) посредникам, имеющим лицензии. И все это — в установленном законодательством порядке. Нарушил букву указа, не проверил наличие лицензии, не проконтролировал потребление твоего товара торговым партнером — получай штраф "на продавца (поставщика) и (или) покупателя в размере до 100% стоимости товара или его изъятие в доход республиканского бюджета".

Как же в эпоху борьбы с инфляцией обойтись без ограничения цен? Надо же куда-то девать сотни ценообразователей из бюрократических коридоров власти. Они иначе думать не умеют, вот и спорят, установить ценовой потолок в 5% или 10%, подводя под необходимые для политической власти экономические показатели.

"Продажа на территории Республики Беларусь организациям и индивидуальным предпринимателям товаров, приобретенных для собственного производства и (или) потребления, поставки для переработки на давальческих условиях и не использованных для этих целей, осуществляется по ценам, не превышающим более чем на 5% цену приобретенного товара". Все это можно делать без лицензии на оптовую торговлю.

Если фирма получила давальческое сырье, переработала его и получила некий товар, то она не может продать его дороже чем на 10% от цены производителя товара. "Приобретение резидентами у нерезидентов товаров, произведенных на территории Республики Беларусь, осуществляется по ценам, не превышающим более чем на 5% отпускную цену, установленную производителем соответствующего товара для потребления его на территории Республики Беларусь на день заключения договора реимпорта". Если вдруг ты не досмотрел и купил товар по цене выше установленной, то "разница между ценой приобретения и ценой производителя товара с учетом 5-процентной надбавки относится резидентом Республики Беларусь на прибыль, остающуюся в его распоряжении". Если есть жгучее желание все-таки купить товар, то ты должен быть готовым расстаться с частью прибыли уже в момент совершения самой сделки.

Если организация или индивидуальный предприниматель покупают товар на вывоз за пределы страны, то продать им этот товар можно лишь по ценам, "не более чем на 5 процентов превышающим цену, сформированную в установленном порядке производителем товара для потребления его на территории Республики Беларусь". В момент совершения торговой сделки каждый ее участник должен до мелочей знать, что он будет делать с товаром, кому продавать, как его использовать.

Если изменились условия на рынке, стало невыгодно делать так, как записано в договоре (после получения права собственности на товар), то государство грозит такими штрафами, что лучше посчитать, в каком случае убытки меньше. Ситуация, когда уровень месячной инфляции выше 5%, когда речь идет о возмещении прямых убытков продавцу, авторами указа вообще не предусмотрена. Они так собираются бороться с инфляцией, с несанкционированной в установленном законодательством порядке торговлей.

Власть, как резину, растягивает свои экономические полномочия, полностью оторвавшись от реальности. Чиновники забыли, что правительство нужно для того, чтобы облегчать производителям товаров и услуг жизнь, а не отравлять ее, собственность надо защищать, а не национализировать под видом ценовых или административных ограничений. Они давно забыли, что власть существует для народа, а не народ для власти!

Административные угрозы были бы пустыми без целой системы штрафов за нарушение порядка формирования цены. Например, за нарушение 5-процентного ценового барьера у продавцов изымается в доход бюджета вся "разница между фактической выручкой и расчетной величиной выручки", а также на них накладывается штраф в двукратном размере этой разницы. И так далее. В течение месяца Совмин определит порядок выдачи лицензии на оптовую торговлю, порядок установления квот на товары и перечень квотируемых товаров, которые обяжут поставлять на так называемые "государственные нужды в установленном законодательством порядке". Подготовка к продразверстке набирает обороты. Вместо как воздух необходимой для производителя либерализации власть решилась на худший для страны вариант — довести процесс формирования цены до экономического абсурда, сделать невозможным взаимовыгодный обмен товарами, поставить торговые потоки в еще большую зависимость от чиновника.

*Ярослав* РОМАНЧУК.

● ЗАЩИТНИКИ ОТЕЧЕСТВА

# НЕБО И ЗЕМЛЯ

*(Продолжение. Начало в №№ 7, 8, 9, 10).*

### 5. ЕСТЬ ЛЮБЯТ ВСЕ

Пройдя курс молодого бойца, новое пополнение распределяется по воинских частях. У этих парней все еще впереди. Караулы, наряды, стрельбища, марш-броски — все, из чего слагаются такие долгие, а на самом деле такие короткие полтора года военной службы. Поначалу непривычны первый, еще не обмявшийся камуфляж, первые шаги в строю, первые занятия... А в мыслях один и тот же вопрос: кем буду, какую военную специальность придется осваивать.

Солдатам январского призыва Василию Гавриленке и Дмитрию Михасеву, которые прибыли в Березовскую авиабазу из Гомельской и Могилевской областей, даже и не снилось, что их служба будет связана напрямую с работой в деревне. Впрочем, ребята сами дали согласие, так как росли на селе, нести наряд в подсобном хозяйстве. Они не лихие десантники и не несут боевое дежурство. Их должность более чем скромная — ухаживать за животными.

Подсобное хозяйство авиабазы, в котором насчитывается семьдесят свиней, десять дойных коров, пять десятков куриц плюс еще крупный рогатый скот на откорме — хорошая прибавка к солдатскому столу. Учитывая специфику несения боевого дежурства и потребность летчиков в высококалорийном питании, молоко, свинина, яйцо, полученные вдобавок к государственным продуктам — дело чести командования. Согласно продовольственной программы, которой была охвачена в советские времена вся страна, Вооруженные Силы также должны были принимать в ней участие, создавая собственные подсобные хозяйства. Со временем и программу забыли, и животные в воинских частях кое-где пошли под нож. Да не во всех. Березовские авиаторы убедились, что дело это нужное и необходимое. Помещения, пусть не с новейшими технологиями, не должны пустовать. В них всегда находится какая-то живность. И, надо сказать, не такая уж мелкая.

Ухаживают за ней всего-то четыре солдата срочной службы. Работа здесь сложная. Не каждый может (и главное захочет) кормить свиней или доить коров (их отелилось уже семь). Для этого, мне кажется, нужна особая хозяйская жилка, любовь



*Рабочий подсобного хозяйства рядовой Александр Крупейченко со своей любимицей.*

к животным. Не зря я вначале упомянул о двух солдатах, изъявивших желание работать именно здесь. У них поменьше теоретических и практических занятий по военной и боевой подготовке, но намного больше физической работы. Порядок на военной минииферме не сравнить с тем, что в колхозных животноводческих помещениях, и животные не падают от постоянного голодания.

— Корма заготавливаем собственными силами, — рассказывает помощник начальника продовольственной службы старший прапорщик А. Жабыко. — Имеем свои поля, сенокосы. Единственное, что завозим со стороны, комбикорм. Работы, конечно, много. Особенно летом и осенью.

### 6. ПОДЪЕМ В ЛЮБОЕ ВРЕМЯ СУТОК

Истребительно-авиационная база несет постоянное боевое дежурство по защите воздушных рубежей нашей Родины. По тревоге в считанные минуты в небо поднимается МиГ, слаженно работают все наземные службы, которые обеспечивают безопасность полетов. День и ночь несут боевые дежурства как офицеры, так и военнослужащие срочной службы. Подразделения, несущие постоянное дежурство, формируются с опытных и моральноустойчивых воинов. Не каждому призванному на срочную службу доверят здесь караул или службу в батальоне связи, где нужна большая ответственность и особый склад характера. Сегодня пойдет речь о работе радиомерных пунктов, которые разбросаны в разных точках от базы и дежурят на которых в основном солдаты-срочники.

УАЗик, любезно предоставленный мне командиром батальона связи для поездки в одну из отдельных точек, колесил то по бетонке, то по проселочной ухабистой дороге. Наконец он остановился у одинокого домика. Несведущему человеку он ни о чем не говорит, разве внешним видом напоминает о том, что имеет отношение к аэродрому.



*Боевое дежурство несет рядовой Максим Ятченко.*

Гражданский человек далек от системы управления самолетами, их посадки и взлета. Но представим себе такую ситуацию. Вы летите в пассажирском авиалайнере, который по той или иной причине вынужден сделать посадку на ближайшем аэродроме. Конечно, не дай Бог оказаться в такой ситуации, но жизнь непредсказуема. Экипаж в таком случае по международной частоте запрашивает частоту ближайшего аэродрома и затем, выйдя на ее, может спокойно приземлиться. В домике, куда я прибыл, дежурному механику поступает срочная команда включить радиостанцию, которая выдаст в эфир определенный позывной на определенной частоте. Радиокомпас самолета улавливает сигнал и по нему находит посадочную полосу. Радиомаркерные пункты обеспечивают посадку военных самолетов во время учебных и других полетов, а также "проводят" литерные самолеты.

Служба солдата на точке прежде всего есть несение боевого дежурства. Команда включить аппаратуру может поступить нежданно в любое время суток. Неслучайно здесь служат ребята надежные и опытные. Иногда обстоятельства складываются так, что дежурство нести приходится одному. Питание поставляется с расчетом на 15 суток. Поэтому, неся боевое дежурство, военнослужащий одновременно является и поваром, и домохозяйкой: сам по выбору готовит себе завтрак, обед и ужин, убирает помещение. А оно мало чем отличается от квартиры. Здесь и кухня, и комната отдыха, и зал.

Зимой надо еще не лениться топить обогревательный котел. Зато сам себе полный хозяин. В свободное время от занятий (они бывают регулярно) хочешь — читай книгу, смотри телевизор, а в летнее время даже ухаживай за грядкой. Действительно, на некоторых точках военнослужащие выращивают себе овощи, зелень.

Во время знакомства с радиомаркерным пунктом дежурство на нем нес рядовой Максим Ятченко. Служить здесь ему доверили неслучайно, потому что Максим закончил физический факультет Гомельского государственного университета, быстро освоил военную специальность в школе младших авиаспециалистов. Отслужил восемь месяцев, собирается в отпуск в родной город, а там, глядишь, и служба подойдет к концу — служить ему после ВУЗа один год.

— Бывают ли неординарные ситуации? — спрашиваю Максима.

— Служба есть служба. Однажды пришлось садить самолет без света. Освещение отключилось повсюду и у меня тоже. Пришлось срочно включать аварийный источник питания. На это требуются считанные минуты. Боевую задачу, считаю, выполнил успешно.

Такими ребятами можно только гордится.

***Алексей ГАНЧУК.***
***Фото автора.***
*г. Береза.*
*(Продолжение следует).*

● ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# Асаблівасці нацыянальнага гандлю рыбай

*На аўтастрадзе Брэст—Масква, недалёка ад Івацэвічаў, мы ўбачылі адзінокую постаць мужчыны, які трымаў у кожнай руцэ па прутку, на якім былі нанізаны буйныя рыбіны — шчупакі, карпы. Спыніліся. Хлопец, назавем яго Анатолем, на нашы спробы сфатаграфаваць яго ў профіль ці анфас адрэагаваў катэгарычным адказам, а вось паразмаўляць не адмовіўся. Такім чынам, прапануем чытачу невялікае інтэрв'ю аб "рабоце" чалавека, які гандлюе на трасе рыбай.*

**— Анатоль, дзе налавіў такіх карпаў і шчупакоў! Паслухай, зараз жа лоўля шчупака забаронена.**

— А чаго вы рашылі, што я яе лавіў? Скажу па сакрэту ўсяму свету, што я яе куплю ў жыхароў адной немаленькай вёскі, якая месціцца паблізу вялізнага возера. Там у любую хату зайдзі — рыбу прадаюць. Тая ўся вёска жыве лоўляй рыбы. Кошт яе ў вёсцы вагаецца ад 700 да 1 мільёна (недэмінаваных) рублёў за кілаграм.

Купляю, выязджаю на трасу. Апранаюся па-сялянску, так, каб здалёк было бачна, што гэтаму хлопцу і на хлеб не хапае.

**— Але ж на "алімпійцы" раз-пораз міліцэйскія машыны. Ты іх не баішся!**

— Праносяцца, пад'язджаюць, задаюць мне пытанні, на якія я маю адказы. Пад'язджаюць прыкладна 4 разы на дзень: спачатку івацэвіцкія міліцыянеры, пасля бярозаўскія. Пасля абеду зноў наведваюць і тыя, і гэтыя. Я ім расказваю "праўду", што спыняю папутку, хачу дахаць да якога-небудзь Кобрына ці Баранавіч. Кажу, што купіў паўгадзіны назад, не памятаю ў каго. Дзе, у якіх Правілах напісана, што забаронена хадзіць па абочыне з рыбай у руках?

**— І што, купляюць!**

— Купляюць час ад часу. Бывае, што ў дзень прадам рыбы на 15 мільёнаў рублёў. Адзін мой "калега" за дзень, расказвае, прадаў 100 кг шчупакоў, "навар" склаў каля 70 мільёнаў рублёў.

**— Што ж, няблага. І хто часцей спыняецца: замежнікі ці нашы?**

— І нашы спыняюцца, прыцэньваюцца, і палякі даволі нярэдка купляюць. Тут на дапамогу нам прыйшоў каталіцкі і праваслаўны велікодны пост. Рыба ж, як вядома, не ўваходзіць у пералік прадуктаў, якія царква ці касцёл забараняе ўжываць у час посту. Цікава вядуць сябе палякі: яны перш за ўсё пытаюць, ці жывая рыба.



Калі яна яшчэ жывая, то просяць ёй адрэзаць галаву — не хочуць на сябе грэх браць.

Вось нядаўна аднаму паляку прадаў пару шчупакоў за сем мільёнаў. Спадзяюся, такім чынам, што ў час посту гандаль у мяне пойдзе някепска.

**— Твая "прафесія" даволі экзатычная. Не цяжка быць першапраходцам!**

— На аўтастраду выйшаў я не так даўно. Тут, на трасе, у нас ёсць і свае, так бы мовіць, аксакалы рыбнага гандлю, канкурэнцыя.

Неяк першы час было няёмка, калі пад'язджалі знаёмыя. А зараз мне — усё роўна. Жыць жа трэба неяк. Я раней больш на Польшчу ездзіў са спіртам і цыгарэтамі.

Зараз на мяжы правілы праезду зрабілі больш жорсткімі, і гандаль патроху адышоў. А дзесьці ж грошы трэба зарабляць? Тая зарплата, якую я атрымаю, калі ўладкуюся на якое-небудзь дзяржаўнае прадпрыемства, можа задаволіць толькі вар'ята. Мая праца — складаная, адкрытая для любога. Прыходзьце, гандлюйце, паспрабуйце майго хлеба.

**— Ты гандляваў спіртам, цыгарэтамі, зараз рыбай. Якія асаблівасці гандлю рыбай на аўтастрадзе!**

— Вялікую ролю адыгрывае знешні выгляд твайго тавару. Калі ў цябе ў руках велізарны шчупак, то людзі, уражаныя і здзіўленыя, спыняюць аўтамабіль — хто паглядзець, а хто купіць, каб кагосьці ўразіць, здзівіць. Нібы трымаеш штосьці вельмі экзатычнае. Як бачыце, экзотыка ў нашай рабоце мае вялікае значэнне.

**— Дзякуй за размову, Анатоль. Усяго найлепшага.**

— Усяго найлепшага і вам.

***Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.***
*г. Івацэвічы.*

# ШАНУЙЦЕ КНІГУ... І ПРАЦУ БІБЛІЯТЭКАРА

*У адзін з выхадных дзён зазірнуў у Івацэвіцкую раённую бібліятэку. І быў нямала здзіўлены: чарга да бібліятэкара стаяла аж на калідоры. Калі падняўся на другі паверх, дзе месціцца чытальная зала, то зноў звярнуў увагу на шматлюднасць. Сярод наведвальнікаў шмат моладзі. Значыць, з'явіўся інтарэс да кнігі ў гэтай катэгорыі насельніцтва? З гэтым і іншымі пытаннямі я звярнуўся да Ганны Якаўлеўны АШКАЛА, загадчыцы аддзела абслугоўвання Івацэвіцкай цэнтральнай бібліятэкі, і Людмілы САНКІНАЙ, бібліятэкара чытальнай залы.*

**— Чым Вы можаце патлумачыць сённяшнюю цікавасць людзей да кнігі! Кажуць жа, што сёння мы сталі іншымі...**

— Людзі заўсёды цягнуліся да ведаў, і зараз, калі цана на тыя ж "веды" — газеты, часопісы, кнігі — значна ўзрасла, большасць вымушана звяртацца да нашых паслуг.

**— Але ж раней чагосьці, а чэргаў да бібліятэкара не назіралася...**

— Так, назіраецца значны ўсплеск актыўнасці чытача. Гэта радуе. Лепш за ўсё пра гэта гавораць лічбы. Калі ў 1998 годзе мы мелі 3138 чытачоў, то ў 1999 — 3296. На пяць тысяч за год павялічылася колькасць наведвальнікаў нашай установы чытачамі (у 1998—20203, у 1999—25186), узрасла кнігавыдача (59151 і 63561 адпаведна).

**— Сярод наведвальнікаў заўважаецца значны працэнт моладзі...**

— Згодны, вельмі добра нас наведваюць старшакласнікі, навучэнцы ПТВ, студэнты-завочнікі, проста маладыя людзі, якіх цягне да папаўнення сваіх ведаў. Хоць што тут дзіўнага: такі фонд, як у нас, дома не збярэш, а нашаму чытачу патрэбна самая разнабаковая літаратура.

**— А чым, дарэчы, больш за ўсё цікавіцца чытач 2000 года!**

— Паўторымся пра спецыяльную літаратуру — юрыспрудэнцыю, бухгалтарскі ўлік, менеджмент, а яшчэ мастацкую літаратуру, дэтэктывы, так званыя жаночыя раманы пра каханне. Шмат хто цікавіцца зместам папулярных часопісаў "Бурда", "Алеся", "Хозяин", "Гаспадыня", "Целитель", "Крестьянка", "Эхо планеты". У нас ёсць чытачы, якія прыходзяць, бяруць гэтыя кнігі, часопісы, выпісваюць сабе рэцэпты, зацікавіўшыя іх выкрайкі, карысныя парады і г. д. Сёння ж выпісаць або купіць некаторыя выданні большасці з нас не па кішэні. Да прыкладу, кошт падпіскі на часопіс "Бурда" складае 8 тысяч 296 рублёў на квартал (3 экз.)

. Людзі больш сталага ўзросту любяць навукова-папулярную літаратуру, цікавяцца кнігамі пра гісторыю, пра вайну.

**— Ці ёсць сярод чытачоў, так бы мовіць, апантаныя! Калі ёсць, то чым вылучаюцца!**

— О, у нас ёсць такія чытачы, на якіх трэба заводзіць адразу блакнот, а не наш тоненькі фармуляр. Так шмат яны бяруць у нас кніг і часопісаў, так шмат літаратуры ідзе праз іх рукі. Хочам вам паведаміць пра некаторых толькі. Гэта — І. І. Сташынскі, Н. П. Іванова, І. І. Грышэўскі, А. С. Вадзякова, П. Т. Казлоў, М. А. Чубкоў, В. А. Власавец, А. С. Алексіевіч, С. В. Каброва, В. А. Папко.



**— Цікава, а як справы адносна своечасовага звароту кніг! Ці існуе сёння такая праблема!**

— На жаль, мала што змяняецца з цягам часу, і па-ранейшаму застаюцца, існуюць людзі, якія добра памятаюць пра тое, што кнігу ў бібліятэцы можна ўзяць і кепска памятаюць пра тое, што кнігу яшчэ трэба і вярнуць. Ці маюць сорам гэтыя людзі?! У нас жа ёсць чытачы, якія трымаюць бібліятэчныя кнігі па некалькі гадоў. Вось, дарэчы, у мінулым годзе мы зрабілі рэйд па кватэрах такіх чытачоў. Памятаю, што ў некаторых кватэрах мы, ужо стоячы ў дзвярах, заўважылі ў мэблевых гарнітурах нашы кнігі. Стаяць дома як ні ў чым не бывала. Чым мы, работнікі культуры, можам паўплываць на іх?

Толькі аднойчы кіраўніцтва адной установы прыйшло нам на дапамогу. Размова ідзе пра наш Івацэвіцкі РАУС. Нямала супрацоўнікаў іх установы завінавацiліся нам і доўгі час не вярталі кнігі. Памятаю, што мы патэлефанавалі тагачаснаму начальніку РАУС Д. С. Мастыку і, папрасіўшы прабачэння за таўталогію, спыталі, ці не выклікаць міліцыю нам на работнікаў міліцыі? Чаму, маўляў, яны не вяртаюць узятую літаратуру?

Начальніка РАУС, відаць, гэта ўзяло за жывое і ў аддзеле адбыўся такі наганяй, што міліцыянеры да нас на наступны дзень пабеглі, як на пажар.

Чамусьці гэтыя "невозвращенцы" бяруць самыя дарагія, самыя патрэбныя кнігі. Так, жыхарка г. Івацэвічы І. Царык яшчэ з 1998 года трымае "Основы менеджмента", якую так часта патрабуюць нашы чытачы і якая вельмі шмат каштуе.

Здзіўляе, што сярод гэтай катэгорыі людзей ёсць асобы, якія на значных пасадах: урач, падатковы інспектар, урачінфекцыяніст, мастак аддзела культуры, медсёстры. Пакуль што ўстрымаемся, не будзем называць іх прозвішчы. Пакуль.

**— Некалькі гадоў таму, калі не памыляюся, Вы праводзілі спецыяльную аперацыю, каб знайсці спонсараў. Чым скончылася задума!**

— Так, у 1997 годзе мы правялі аперацыю "Дар", разаслалі пісьмы ў розныя арганізацыі і ўстановы Івацэвіччыны з просьбай дапамагчы нашай бібліятэцы з набыццём кніг. Адгукнуліся ўстанова УЖ 15/5 і райінспекцыя прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя.

Па два мільёны выдзелілі гэтыя ўстановы. Гэта, калі ўспомніць пра тагачасныя цэны, нямала. Мы добра папоўнілі наш фонд. Вялікі дзякуй кіраўніцтву вышэйзгаданых арганізацый.

У 1999 годзе ўстанова 15/5 нам пералічыла 55 мільёнаў. Мы на гэты раз дакупілі больш спецыяльнай літаратуры: па юрыспрудэнцыі, эканоміцы, бухгалтарскаму ўліку. Дагаджаем рознаму густу. Хоць кнігі надзвычай дарагія. Сёння кошт адной даходзіць да 4 мільёнаў.

Вялікі дзякуй і тым чытачам, хто падараваў нашай бібліятэцы асабістыя кнігі. Гэта перш за ўсё І. А. Полх, Ю. А. Храпаў, а таксама В. М. Канашук, Ю. А. Крыцкая, В. І. Баранаў, Л. А. Валах, Г. М. Янковіч, Г. М. Галаўко, Т. І. Лаўрусевіч...

**— З нядаўніх часоў накаторыя вашы паслугі сталі платныя. Якія, дарэчы!**

— Мы выдаем літаратуру павышанага попыту на пяць дзён за 15 рублёў. З чытальнай залы часопіс — 5 рублёў за суткі, кніга — 10 рублёў. Цэны, як бачыце, проста смешныя. Адзін жа нумар "Бурды" каштуе сёння каля 3 тысяч рублёў. Калі мы нават цэлы месяц будзем штодзённа выдаваць яго, то ўсё роўна не акупім і 15 працэнтаў яго кошту. Многія нашы чытачы карыстаюцца нашымі паслугамі і дзівяцца, што так усё танна.

**— Не буду пытаць пра матэрыяльны стымул (сёння работнікі культуры, гэта ўсім вядома, пераважываюць не лепшыя часы), а вось што ў вашай працы прыносіць матэрыяльнае задавальненне!**

— Зразумела, нашы наведвальнікі, чытачы. Прыемна, што нават пакінуўшы свой горад, выехаўшы з Івацэвіч, многія з іх наведваюць нас, прыехаўшы на радзіму, здзіўляюцца, што ў нас можна ўзяць, знайсці рэдкую кнігу, якую ў Мінску не знойдзеш днём з агнём.

**— Вялікі дзякуй Вам, Ганна Якаўлеўна, і Вам, Людміла, за цікавы расповяд. Поспехаў Вам у працы, добрых і своечасовых зарплат.**

— Усяго найлепшага і вашай газеце.

*Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.*
*г. Івацэвічы.*

---

*ВЗГЛЯД*

# Человеку дано слово, скоту — немота

Вечер. Автобус набит битком. Парочка — он и он — в легком подпитии, откуда-то возвращаются и "мирно" между собой беседуют. Говорят о вещах вообщем-то обычных, но язык, язык режет слух: мат на мате и матом погоняет. Но весь автобус молчит, хотя у большинства уши свернулись трубочкой. И вот находится смелая женщина:

— Мужчина, вы же в автобусе, и едете не один, так чего ругаетесь? Если разучились говорить по-человечески, то молчите уж!

Ну, думаю, сейчас начнется. Они ей покажут кузькину мать! Но происходит самое удивительное: мужики робеют и начинают оправдываться:"А что мы, мы и так молчим, а если что не так сказали, то ты нас прости, дорогая". И всю дальнейшую дорогу они всему автобусу читали лекцию о грехе сквернословия. Просвещенные, однако, попались мужики.

Помните старую русскую пословицу: слово не воробей, вылетит — не поймаешь. А что его ловить-то, пусть себе летит, никому не мешает. Вы уверены, не мешает?

Несколько лет назад произошла такая история. В грязной квартире, напоминающей скорее притон, чем квартиру, нашли двухлетнюю девочку. Мать ее бросила и девочка одна почти неделю провалялась на груде тряпья. Ребенка отмыли, отогрели, накормили и он заговорил. Этот ангелочек с пухлыми губками начал исторгать такую матерщину! По всему было видно, что этот человечек начал говорить не с привычных слов "мама", "папа", а с тех, которые издревле считались скверной. Словарь Даля трактует скверну как мерзость, гадость, пакость, грязь, все гнусное, нечистое.

Мы же явно об этом забыли, и не только мы, но и филологи тоже. Дошло уже до того, что изданы словари блатной лексики и нецензурных слов. Понятное дело, без этих двух книг русский язык был до нельзя беден!

Не так давно в нашем городе прошла выставка камней и изделий из них. На ней было на чем задержаться глазу. Трое респектабельных молодых людей, одетых с иголочки, подошли к одному из экспонатов:

— Восхитительно, блин!

Да, восхитительно, но почему блин? Никаких блинов здесь и в помине нет. Конечно, все мы знаем, что такое блин. Этим словом заменяют другое, которое в приличном обществе произносить — дурной тон. А произносить надо, вот и придумали достойную замену — простой русский блин, завсегдатай трапез. Взяли и испоганили всеми любимое блюдо. Малыш возится в песочнице, что-то у него не ладится — блин. Из-под носа очаровательной девушки ушел автобус — блин. Солидный мужчина не может открыть автомобильный замок — блин.

Всех нас — и образованных, и с незаконченным начальным, и седых, и с бантиками, и столичных, и провинциальных — объединяет одно: мы доки по части мата. И не знать его нельзя — школа жизни щедро раскрывает свои учебники, и мы тычемся в них носом: заборы, стены, стекла — все исцарапано именно этими словами. Учение идет блестяще. Печально, но матерщина стала нормой. Ею не брезгуют теперь даже печатные издания. Василий Аксенов, автор многих известных произведений, издал две новые прекрасные по сути своей книги — "Кыся" и "Кыся в Америке" — наша человеческая жизнь глазами кота, но там столько мата, явно больше, чем нормальных слов. Читать не хочется, потому что с детства меня научили относиться к каждой книге как к произведению искусства, а считать матерщину искусством я пока не начала.

Горько все это, горько. Хотя многие, знаю, не разделяют моей печали: а что тут такого, на Руси ругались всегда. Так-то оно так, но могу напомнить и другую традицию. Еще во времена царя Михаила Федоровича была у некоторых чиновников такая обязанность: они переодевались, брали стрельцов и шли на рынки, ярмарки, туда, где скопление людей. Ходят и слушают, не хлестнул ли кто кого поганым словом. Тогда уж попался. Стрельцы хватали бедолагу и тут же прилюдно его стегали розгами. Дабы другим неповадно было. Может, это и не лучший метод воспитания, но свои плоды он приносил. Учились люди обуздывать свой язык. Да и на нашей с вами памяти за матерщину в людном месте можно было схлопотать 15 суток. А сейчас, вопервых, милиции хватает работы и без этого, а во-вторых, задержи милиционер нас, нашего кума, брата, свата за матерщину, да мы его, милиционера то есть, не раз и не два помянем злобным громким словом: это ж надо, ни за что человека в каталажку упекли!

А ведь матерная брань — явное проявление зла. Человек выбрасывает в атмосферу сгустки зла, сконцентрированной в поганых словах, и сгустки эти засоряют атмосферу, делают ее тяжелой для души и сердца. Матерные слова, как выхлопные газы, дурят голову и отравляют сердце. А нам все кажется: пустяк, подумаешь, ведь не убиваю, не граблю...

Почему так легко нам дышится в храме? А ведь это, пожалуй, единственное место, где люди не позволяют себе распускать язык.

Конечно, легко размышлять и призывать к чистоте языка, сложнее сделать. Попробуй сдержаться, когда гнев через край и в недрах души пекутся такие жареные словечки, что сам диву даешься их разнообразию. Хорошо сказать, а попробуй отлови в разговоре всех блох, разбежавшихся по лексикону. Легко сказать — трудно сделать. А кто сказал, что быть интеллигентным легко? Но найди в себе силы замолчать. Запрети себе произносить матерные слова, запрети себе изрыгать нечистоты своими устами. И увидишь: произойдет нечто удивительное. Создав вокруг себя экологически чистую словесную зону, заметишь, что в твоей зоне становятся чище все.

*Галина СТРОЦКАЯ.*
*г. Барановичи.*




● ДЕБЮТ

## Утро

Под рассветную дрему
поблекшей луны,
Маскирует заря звезды
солнечной пудрой,
Как на грех, все приятней
и сладостней сны,
Но к часам подбирается
строгое утро.
Выплыл огненный шар
из-за темных кустов,
Золотые лучи окунул
в спящих водах.
И усталая ночь
в окружении снов
Незаметно от всех
удалилась на отдых.

## Мгновенье

Челюсти времени,
Не уставая,
Гложут и гложут годы.
Но миг — виртуоз,
Петляя меж звезд,
Ныряет от смерти
В грядущего дверцы
И смотрит на нас
Мириадами глаз
С грозного небосвода.

## Муза

Мы стали стыдиться
высокого Слова,
Амвон предоставив
дешевой пошлости.
Себя заковали в вещизма
оковы,
Духовность отбросив
с беспечной легкостью.
А позабытая,
скорбная Муза,
Та, что возносит
к высотам Млечным,
С дырявым кошем
житейского груза
Бредет по жизни,
ссутулив плечи.

*Валентина ОСИПОВА.*
*г. Береза.*

## Сыну

Ты чист, мой сын,
как поутру роса,
Как в ясную погоду
небеса.
Ты чист и прост
и никакой порок
Не нарушал души твоей
порог.
О, как хочу я,
чтоб спустя года,
К ней не касались горе,
зло, беда.
Чтоб ты пронёс
сквозь годы простоту
И в первозданном виде
чистоту.
Как я хочу,
чтоб ты задорно, смело
С любовью брался
за любое дело,
И твердой поступью
шагал любой дорогой
в жизни,
И пользу приносил
и людям, и Отчизне.
Так будь же, сын мой,
светел, прям, могуч,
Как этот солнца первый,
яркий луч.

*Анатолий ПОТЕЙНОВ.*
*г. Белоозерск.*

● КОНКУРС "НАШ ДОМ — БЕЛАРУСЬ"

## Вёска Міцькавічы

Куды ўжо нас дарогі не заносяць
І ўсюды мы знаходзім штось.
Не гэтак і далёка ад Завосся
Мне дарагая вёска ёсць.
Уздоўж яе такі разлог шырокі!
І кручы на заходні бок!
Тут чуюцца Міцкевічавы крокі
Праз цэлыя эпохі крок.
Сардэчных слоў ягоных адгалоскі,
Як шэпты жытніх каласоў,
Плывуць і зараз тут ля гэтай вёскі
З тых даўніх горасных часоў.
Як і тады, тут захапляюць сосны,
Жывіца ап'яняе кроў...
Ён быў і ёсць нібыта бацька хросны
Для навакольных жыхароў.
Дамы прыгожыя, старыя хаткі —
Наўсцяж чыгункі і шашы.
Тут людзі — бы Адамавы нашчадкі,
Ва ўсіх паэзія ў душы.
Хоць вёска Міцькавічы вам і невядома,
Але ж пэўны сэнс нясе:
Ва ўсякай хаце тут і ў кожным доме.
Міцкевічы амаль усе.

## Зямляне

Хочаш выжыць —
дык трэба вярцецца.
І ты верцішся так, як умееш.
О, Зямля! Нікуды нам не дзецца,
Ты таксама старэеш, хварэеш.
Хутка цела абсыпецца снегам,
Вецер зблытае мерыдыяны
І насуперак зоркавым вехам
Ты арбітай памчыш размытанай.
І дарогу другую праторыш
Ты ў бязлітасны холад сусвету,
Панясеш у бяскрайнасць прасторы
Нашых сэрцаў і дум эстафету.
Заадно — параксізмы адчаю,
Параліч нашых добрых пачуццяў...
Хай цябе новы шанс увянчае
Недзе там, сярод Млечнай муці.

*Алесь КОРНЕЎ.*
*г. Баранавічы.*

## Идея

Есть идея по реформе,
Вы послушайте, друзья,
Чтоб всё было у нас
в норме,
Предлагаю вот что я:
Брать налог
за дачный сад.
С каждой ветки, до листа.
Брать за дождь,
за снегопад...
Казна будет не пуста.
Ну, а то как мы вдыхаем?
Глубоко,
без всякой меры,
Безвозмездно поглощаем
Кислород из атмосферы.
За уменье плакать, петь,
Улыбаться, есть и пить,
За способность умереть,
И родиться. Просто жить.

*Владимир ФЕДОТОВ.*
*г. Пружаны.*



*Вясенняя мелодыя.*
*Фотаэцюд Аляксея ГАНЧУКА.*

● КАЗКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Варона

Жыла-была ў пушчы Варона. Аднойчы яна пазнаёмілася з гусямі, што плавалі паблізу вёскі. І нібы падмянілі яе. Вярнулася пад родныя шаты і:

— Тэрмінова патрэбен маляр!

Прыбег Янот-маляр, а яна:

— Бяры квач і пабялі мае пёры!

Праз хвіліну паглядзелася Варона ў лужыну, задаволена каркнула і паляцела на рачулку:

— Паўзірайцеся гусі! У чараду вашу хачу!

— Га-га-га! — зарагаталі гусі, а гусак Сімка сказаў:

— Ты, ш-шаноўная, ш-шалапутка!

Варона нібы косткаю падавілася. А вярнулася дамоў, і там яе сароміць сталі:

— Краля!

А яна:

— Га?

— Гэта здрада!

А яна:

— Га?

— Бач ты яе! — не вытрымалі сяброўкі. — Ужо і мовы матчынай цураецца, толькі па-гусінаму і гаворыць!.. Тады перабіралася б на раку. Толькі ці далёка заплывеш з імі?..

Белая Варона, якая нядаўна была шэрай, апусціла дзюбу і ўпершыню задумалася: "Сапраўды, ад сваіх адракласся і да чужых не прыбілася..."

*Яраслаў ПАРХУТА.*

● ПАВОДЛЕ НАРОДНАГА

## Хто галоўны ў сям'і?

Калі сталі вызначацца
Ужо абрысы барады:
— Хто галоўны ў нашай хаце? —
Бацьку сын спытаў тады.
— Гым! — Ускінуў бацька вочы. —
Хто галоўны, ведаць хочаш.
Сам дазнацца потым зможаш.
Уласны вопыт дапаможа.
А калі ўжо ўздумаў сёння
Стаць дасведчаней, мудрэй,
То бяры маіх двух коней,
А ў маці сто курэй.
Нашу вёску з краю ў край
Ты прайдзі і запытай.
Як акажацца жанчына,
Дык ёй курыцу дары.
Дзе ж трымае верх мужчына—
Кінь каня на тым двары.
Вёску сын амаль прайшоў,
Ды такога не знайшоў,
Каб было, што муж галоўны,
Дзе б аддаць мог дар асноўны.
І з апошняю чубаткай
Разгадаць жыцця загадку
Ён, спусціўшы долу вочы,
Да апошняй хаты крочыць.
Радасць тут яго спаткала.
Муж адрэзаў яму ўдала
На пытанне цвёрда:
— Я!
— Выбірай тады каня!



Спадабаўся мужу сіві
З пышнай, доўгай гордай грывай.
А ж тут жонка мужа штурх
І на вуха:
— З гэтых двух
Конь гняды куды ладнейшы.
І сыцейшы, і вышэйшы.
Муж змяніў рашэнне ўраз.
На гнядога жмурыцца.
Толькі чуе ў гэты час:
— На, трымай, брат, курыцу.

*Мікола ВІЦЯЗЬ.*
*г. Белаазёрск.*

## Правінцыя

Няўтульна і сыра. Паціху дажджыць.
Падбіты сабака прылюдна канае.
Спазніўся чыноўнік — на службу бяжыць,
Пузаты, а лужыны спрытна мінае.

Сышліся пляткаркі на колькі гадзін,
Каб косці яшчэ раз перамыць "дабрадзеям".
Нявыспаны хлопец нудзьгуе адзін,
Падпёршы кавярню пад назвай "Надзея".

Дзяўчына гулліва плыве на вакзал,
Ёй певень гарланіць услед бестурботна.
Электрацягнік мокры хвост паказаў
І знік у далечы санліва-маркотнай.

Запэцканы кот гаспадарыць цішком
На сметніку свежым ля вузенькай рэчкі,
Аб кошце напояў, ануч і цвікоў
У крамах пустых разгараюцца спрэчкі.

## Вечнасць

Сіні водбліск далёкіх адценняў.
Серабро павуцінных завей.
Прахалода. Спакой. Шапаценне
Важанят у заспанай траве.

Непаўторнасць. І думак раенне.
Доўгі вечар. Хвіліны — гады.
Боль і плач у грудзях ад імгненняў.
І пра вечную вечнасць уздых.

*Аляксей ГАНЧУК.*

## Сіла слова

Здаўна вядома, якую сілу мае слова. "Слова лечыць і калечыць" — кожны дзень чуем мы па радыё. Добрае слова доктара лечыць лепш, чым самыя дарагія лекі. Ласкавае слова настаўніка заахвочвае дзіця да вучобы. Пяшчотнае слова любага ўздымае нас да нябёсаў, робіць самую лютую зіму квітнеючай вясной.

Мы ўсе карыстаемся словам. Таму вельмі карысна ведаць, што праз слова мы пасылаем пэўную ўстаноўку. І вельмі важна, каб яна была станоўчая, бо, вядома, што жыве яна два гады.

Сваім дзецям мы павінны гаварыць: "Ты добры. Ты разумны. Ты ласкавы. Ты шмат ведаеш". І г. д. І ні ў якім разе нельга казаць: "Ты дурны. Ты гультай. Ты невук". Бо і гэтая ўстаноўка жыве два гады. Уздзейнічаючы на падсвядомасць, яна паступова робіць дзіця такім.

Важна самому сабе гаварыць: "Я здаровы. Я разумны. У мяне добрае сэрца. Я прыгожы". І з часам чалавек стане такім.

Часта праз радыё ці газету блізкія, родныя людзі віншуюць адзін аднаго з днём нараджэння ці якой іншай знамянальнай датай. (Такіх віншаванняў шмат і ў "Газеце для вас"). Звычайна віншуюць самых дарагіх людзей і жадаюць ім ад душы самага найлепшага.

Аднак... Яны, напэўна, самі таго не ведаюць, што пасылаюць сваім самым дарагім людзям адмоўную ўстаноўку, бо ўжываюць у сваіх пажаданнях часціцу **"не"**. Напэўна, тыя людзі і не здагадваюцца, што нашая падсвядомасць адмоўную часціцу **"не"** не ўспрымае. І калі чалавек жадае:

Пусть горе в двери
(не) звонит,
А радость пусть
(не) забывает,

то на ўзроўні падсвядомасці гэта ўсё гучыць без часціцы "не" (апусціце "не" і прачытайце напісанае). Уяўляеце, якое пажаданне праз радыё ці газету вы пасылаеце сваім родным? І з кожным днём колькасць такіх пажаданняў множыцца. Мы іх проста перапісваем адзін у аднаго. Можа, і жыццё нашае не становіцца лепшым, а наадварот. Усё невыпадкова ў гэтым свеце.

Ці не працей пажадаць тое, што вам падказвае сэрца?

Я ад душы зычу ўсім добрым людзям моцнага здароўя, веры ў сябе і свае сілы, шчасця і радасці на доўгія гады.

*Раіса ЖМАЧЫНСКАЯ.*

## Одной тебе

Порыв души,
полёт кометы —
Ночная аура Луны.
Вопросы странные,
ответы
Святого таинства полны.
Душа горит в огне
полночном,
Пульсирует,
стремясь во тьму.
И оставляя след порочный,
Пронизывает тишину.
Глаза любви —
глаза Вселенной
Завуалированы мглой.
Хоть сердце любящее
тленно,
Всегда живу одной тобой.
Тебя одну хочу я видеть
В сияньи лунно-голубом
И взглядом я боюсь
обидеть
Поэтому и бью челом.
Твои глаза —
ночное зелье,
Звёздно-мистический
ликёр.
Но я не требую
похмелья,
Меня пьянит твой
милый взор.
А наряду с тобой
поклоны
Я отбиваю и судьбе.
И звёздных роз
дарю бутоны
Тебе одной, одной тебе.

*Владимир ИВАНОВ-ВЕВЕРОВСКИЙ.*
*г. Речица.*

ШТО ХВАЛЮЕ

# РАЗАМ МЫ ПЕРАМОЖАМ

Беларусь уступае ў новае тысячагоддзе. Народы суседніх краін упэўнена вяртаюцца ў еўрапейскую цывілізацыю, маюць сваю дзяржаўнасць. А мы, як і напачатку стагоддзя, стаім перад небяспекай згубіць нашу незалежную дзяржаву ды растварыцца ва ўсходняй імперыі, дзе пануюць злачыннасць, голад і вайна.

Адна з найвялікшых падзей беларускай гісторыі, якая вызначыла і паўплывала на лёс усёй нацыі — гэта абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. Пасля акупацыі Беларусі бальшавікамі і палякамі органы БНР, прызнаныя да гэтага часу васьмю краінамі свету, былі змушаныя дзейнічаць у эміграцыі. Безупынна працуе рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня Рады БНР — вядомая дзеячка чарнобыльскіх арганізацый, навуковец Івонка Сурвіла (нарадзілася ў Заходняй Беларусі).

Партыяй БНФ шляхам прыёму заяваў пачала стварацца грамадзянская супольнасць "Грамадзяне БНР". Заявы ў грамадзянства БНР падалі тысячы патрыётаў, гэта вялікая сіла. Шматтысячная грамадзянская супольнасць і яе прадстаўнічы легітымны орган стануць той сілай, якая рэальна зможа абараніць незалежнасць Беларусі.

Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя БНФ, праводзячы акцыю "Беларуская салідарнасць", прымае заявы ў грамадзянства БНР дзеля далейшага пашырэння супольнасці "Грамадзяне БНР".

82-я ўгодкі БНР — традыцыйны Дзень Волі — як заўсёды павінен згуртаваць патрыётаў Бацькаўшчыны для абарон нашай дзяржавы. Будзем усе разам, каб прадэманстраваць нашае адзінства, нашу веру і ўпэўненасць у шчаслівай будучыні вольнай Беларусі. Заклікаем усіх грамадзян прыняць актыўны ўдзел у святкаванні Дня Волі ў суботу 25 сакавіка 2000 года.

Разам мы пераможам!

Жыве незалежная Беларусь!

*Галіна КАВАЛЕВІЧ, старшыня Бярозаўскай суполкі Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ.*

МЫ И ДЕТИ

# Родители, будьте бдительны!

Не так много времени прошло с начала года, а уже пять дел о лишении родительских прав направлены в суд. Одну из таких горе-родительниц, Г. С. Иванову, совсем недавно лишили прав на дочерей. Девочки: старшая инвалид детства, с ней занимались на дому, и младшая, ученица третьего класса, стали свидетельницами того, что происходило у них в доме. Отец их погиб ранее. К матери начали приходить собутыльники, ранее судимые. Дом превратился в притон.

Своих детей Иванова прятала, — то отводила к соседям, то к кому-нибудь из собутыльников. Когда девочек у нее потребовали, то сказала, что отправила их к бабушке в Кричевский район. На запрос о подтверждении местонахождения детей ответ был отрицательным.

В "гостях" у Ивановой бывали и подростки, приносившие к ней украденное. Из 10 совершенных подростками преступлений за этот год, семь приходятся на тех, кто побывал у Ивановой. Трое из подростков даже совершили разбойное нападение на хозяйку квартиры одного из них.

Большинство ребят, совершающих преступления, либо из неблагополучных семей, либо из неполных. Основная же причина неблагополучия — пьянство.

А какие меры могут принять правоохранительные органы по отношению к родителям, не выполняющим свои обязанности?

1. Есть решение областного Совета депутатов № 254 об административной ответственности родителей за нахождение детей, подростков до 16 лет в ночное время на улицах города и других населенных пунктов. Штраф за это родители могут получить от трех до пяти минимальных зарплат.

2. За злостное невыполнение родителями своих обязанностей по воспитанию и обучению детей применяется ст. 162 Кодекса об административных правонарушениях РБ. То есть, если ребенок не посещает школу, остается без контроля и допускает правонарушения, то родители будут оштрафованы до трех минимальных зарплат.

3. Ограничение дееспособности лиц, злоупотребляющих спиртным и ставящих в тяжелые условия семью. Ведь если кто-либо из родителей пристрастился к бутылке, то распорядиться средствами правильно уже не сможет, не выделит нужной суммы на ребенка. По заявлению зарплату супруга или супруги будет получать другой родитель.

4. Крайняя мера, применяемая к родителям — лишение прав на детей. Дети отправляются в интернаты или оформляется опека близкими родственниками, пожелавшими это сделать и имеющими на это возможность. Но здесь есть такой парадокс — родитель, каким бы он ни был, либо платит алименты, либо сам выделяет деньги на ребенка. Лишенный прав, он и ответственности за свое дитя лишается. Остается заботиться только о своих потребностях. А на содержание одного ребенка в интернате уходит в месяц приличная сумма. Да разве только в деньгах дело? Ведь у каждого такого ребенка за плечами несладкое прошлое, обида на родителей, которые не позаботились о будущем, не сумели вовремя понять и ответить на любовь любовью.

*Иван ЯКУБЕЦ, начальник инспекции по делам несовершеннолетних Ивацевичского РОВД.*

ПРАВІНЦЫЯЛЬНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Шчасця табе, Маша

Нявеста была прыгожая, а веселле вясёлае. Я глядзела на сваю сяброўку ў белай прыгожай сукенцы і здзіўлялася: "Няўжо тая самая Машка? Разам жа ў лялькі гулялі!"

Але спачатку рыхтаваліся да вяселля. Перад хатай зрабілі палатку. У вёсках часта робяць вяселле ў палатках, асабліва, калі шмат запрошаных.

На кухні ўсё нешта смажаць, вараць, рэжуць каўбасы, рулеты, хлеб, усе раскладваюць на талеркі. Не губляюць часу і дзяўчаты — упрыгожваюць палатку. Яны жартуюць, смяюцца, але то адна, то другая могуць раптам сказаць: "Не веру, што яна ўжо замуж выйдзе". Зайшла ў палатку і баба Кацця. Нешта сыпле пад абрусы на сталах.

– Баба Каця, што гэта вы робіце? — пытаюся я.

Яна спачатку не хоча казаць, але ўсё ж шэпча мне на вуха:

- Вось будзеш выходзіць замуж, то я і да цябе прыйду і насыплю.

— А што гэта, навошта?

— Гэта мак асвячоны, каб бойкі не было.

Жаніх прыехаў у час, каб не спазніцца на рэгістрацыю. Дзяўчаты вельмі стараліся не аддаваць нявесту і патрабавалі за яе выкуп, прымусілі жаніха выконваць розныя заданні. Да свайго нарачонай ён ішоў па сурвэтках і выкрыкваў самыя прыгожыя кампліменты: "Любая, прыгожая, мілая, сонечная..."



Рэгістрацыя праходзіла ў вясковым клубе. Хваляваца давялося больш бацькам, бо маладыя, як я заўважыла, былі вельмі шчаслівыя. Жанчына, якая рэгістравала іх шлюб, сказала: "Адразу бачыш, што яны сапраўды кахаюць адно аднаго".

Пасля рэгістрацыі заехалі на могілкі, усклалі кветкі — трэба шанаваць памяць.

Калі пад'ехалі да вёскі, то пайшоў дождж. Пры гэтым ярка ззяла сонца і над дарогай атрымалася арка з вясёлкі. Усім спадабалася такая з'ява.

Вячэрняе застолле мне падалося надта доўгім, бо халоднае надвор'е не спрыяла таму, каб рабіць вяселле ў палатцы. Затое весела танцавалі і гэта дапамагала сагрэцца.

А ў канцы прынеслі вялікі смачны каравай, упрыгожаны галінкамі. Маладых шчодра адарылі, а яны пачаставалі караваем усіх гасцей.

Праўда, нават на наступны дзень вяселля Віктар гаварыў: "Не магу паверыць, што ўжо ажаніўся". Але я таму сведка — Віктар і Маша сталі мужам і жонкаю. Маша заканчвае вучыцца ў школе і замуж выйшла рана. Пытаюся ў яе: "Не шкадуеш?"

Яна адказвае не разважаючы: "Кожнаму сваё".

*Наталля КАПЫЦІЧ. г. Івацэвічы.*

НА ХВАЛІ СУСВЕТУ

## Працягваюцца сутыкненні ў Сербіі

У горадзе Косаўска-Мітравіца не спыняюцца сутыкненні паміж сербамі і ваеннаслужачымі з саставу сіл бяспекі. Французскім міратворцам прыйшлося прымяніць слёзатачывы газ, каб узяць пад кантроль мост цераз раку, якая раздзяляе горад на сербскую і албанскую часткі. Некалькі соцень сербаў закідвалі міратворцаў камянямі, але ў выніку былі блакіраваны. Ёсць параненыя. Міратворцы маюць намер стварыць у сербскай частцы горада зону бяспекі, што дасць магчымасць сем'ям косаўскіх албанцаў вярнуцца ў свае дамы ў гэтых кварталах.

## Пора платить, хлопцы

На заседании российского правительства, которое вел и. о. президента Владимир Путин, рассматривали проблему внешнеэкономических взаимоотношений, прежде всего со странами СНГ. Напомним, что задолженность партнеров по СНГ оценивается в 7,2 миллиарда долларов, в то время как Россия этим странам должна около 800 миллионов долларов. Разница составляет ни много ни мало — больше четверти доходной части российского бюджета.

Меньшая часть этой суммы — задолженность по кредитам, а большая — долги за энергоносители. В первом случае находить общий язык с партнерами проще, поскольку есть возможность своего рода взаимозачетов.

На заседании члены кабинета попытались выработать позицию по отношению к ближним соседям. В прошлые годы эта проблема по политическим соображениям откладывалась "на потом", но теперь, похоже, российское правительство намерено всерьез разгрести завалы. Предложено несколько схем погашения задолженности, которые устраивают кредитора. В частности, Россия требует от партнеров в качестве платы по государственным кредитам только "живые деньги". В то же время не исключается погашение товарами долгов перед хозяйствующими субъектами, но при условии, что цены будут им выгодны. И, наконец, предусматривается возможность в обмен на долговые обязательства приватизировать предприятия в странах СНГ, которые представляют интерес для поставщиков энергоресурсов и кредиторов.

Дело за малым — чтобы партнеры по СНГ, которые пользовались нефтью и газом в долг, согласились расстаться с фабриками, заводами и пароходами, на которые "положат глаз" поставщики энергоресурсов.

## Тяжба с правительством США



Бывший охранник концлагеря Треблинка 79-летний Джон Демьянюк подал в суд на правительство США с требованием выплатить ему пять миллионов долларов за моральный ущерб. 20 лет назад Демьянюк был обвинен в том, что он служил охранником в нацистском лагере смерти. Предполагалось, что в Треблинке у Демьянюка было прозвище Иван Грозный.

Он был лишен американского гражданства и выслан из страны по требованию израильского суда. В Израиле он должен был предстать перед судом по обвинению в гибели тысяч евреев. Однако позже суд выяснил, что Демьянюк — не тот самый Иван Грозный, и ему разрешили вернуться в Соединенные Штаты.

Тем не менее министерство юстиции США по-прежнему убеждено в том, что он служил охранником в нескольких лагерях смерти. В связи с этим Демьянюку вряд ли будет возвращено американское гражданство.

Демьянюк категорически отвергает свою причастность к пыткам и смерти узников концлагеря. Он утверждает, что, начиная с 1942 года, когда он попал в плен, нацисты использовали его в качестве чернорабочего.

Адвокаты Демьянюка обвиняют правительство США в оказании психологического давления на своего подзащитного и нанесении ему морального ущерба.

## Залаты рэлігійны атлас

Кампанія "Міцубісі" сумесна з Ватыканам выпусціла "Залатую кнігу свяшчэннага года". Яна ўтрымлівае 20 ілюстрацый, выкананых з золата вышэйшай пробы, у якіх зафіксаваны асноўныя вехі развіцця хрысціянства.

*(Па старонках перыядычных выданняў).*

## Сердечно поздравляем



*Жителя д. Нарутовичи Березовского района, дорогого папу и дедушку Ивана Ивановича МЕЛЕШЕВИЧА поздравляем с 80-летием со дня рождения. Желаем всех земных благ и вечной весны в душе.*

*Сегодня день рожденья твой,*
*Дай Бог тебе хорошего здоровья.*
*И в доме пусть ютится лишь покой,*
*Согретый счастьем, радостью, любовью.*

*Сын и его семья.*





*С радостью поздравляем с днём рождения дорогую, милую жену и мамочку Валентину Григорьевну МОЛОШ из г. Ивацевичи.*

*Желаем тебе того, о чём мечтаешь, во имя чего живешь. Пусть твои душевная теплота, простота, доброта останутся на долгие годы.*

*Желаем быть тебе красивой,*
*Как утренний цветок в росе.*
*Желаем быть всегда счастливой,*
*Чтобы завидовали все.*

*Любящие тебя муж, дочь Юлия и сын Вадим.*



*Рады поздравить с днём рождения дорогую Ольгу Викторовну КАРМАНОВИЧ из г. п. Телеханы.*

*Желаем счастья в этот день,*
*Тепла от тех, кто будет рядом,*
*Улыбки светлой на лице*
*И солнечных лучей в награду.*

*С любовью и уважением — бабушка, тётя Валя, дядя Павел, Наташа и Серёжка.*



*Своих деток Олю и Ваню ЛИСОВСКИХ (г. Белоозёрск) от всей души поздравляем с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, счастья, радости и всего наилучшего. Милые наши! Самое главное в жизни — здоровье, честность, доброта.*

*Папа и мама.*



*Горячо и сердечно поздравляем с днём рождения дорогую доченьку и сестру Валентину Григорьевну МОЛОШ из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, удачи на жизненном пути, бодрости на долгие годы.*

*Желаем солнечного света,*
*Гостей за праздничным столом.*
*Пусть будет жизнь твоя согрета*
*Любовью, радостью, теплом.*

*С любовью — мама, папа, сёстры и братья.*



*С днём рождения поздравляем дорогого папу и дедушку Николая Павловича ГОРБЕЛИКА из д. Бытень Ивацевичского района. Родной наш! Пусть тебя никогда не покидает надежда, года множат твою мудрость, а здоровье только радует.*

*Дочь Елена и ее семья.*



*Поздравляем нашего Александра Ивановича МЕЛЬЯНЧУКА из г. Ивацевичи с днём рождения.*

*Желаем от чистого сердца*
*Радости в жизни, успехов в труде,*
*Счастья побольше, здоровья покрепче*
*И долгую-долгую жизнь на земле.*

*С уважением — коллектив Ивацевичского Дома детского творчества.*



*Хорошую подругу из Белоозерска Ольгу Алексеевну ПАНАСЮК поздравляем с днём рождения. Желаем здоровья, любви, веселья, всегда и везде праздничного настроения.*

*Пусть красивою дорогой*
*Будет виться жизнь твоя.*
*Счастье пусть шагает в ногу,*
*От невзгод тебя храня.*

*Наташа и Люда.*

*Самые горячие поздравления и наилучшие пожелания шлём любимому сыну и брату Александру ТУМАНИКУ (г. п. Телеханы) в день его 16-летия.*

*Желаем, чтоб люди ценили тебя*
*И мы чтоб тобою гордились.*
*Чтоб вся твоя жизнь, как желанный букет,*
*Любовью и счастьем светилась.*

*Мама, папа и сестрёнка Оксана.*

*Уважаемого Петра Ивановича ШЕШУКА (г. Ивацевичи) поздравляю с днём рождения. Приятной и долгой жизни тебе! Пусть в твоей семье будут мир и достаток, счастье и радость, а в твоём доме — прекрасный климат.*

*Пусть в жизни будет всё, что нужно,*
*Чем жизнь бывает хороша:*
*Любовь, здоровье, счастье, дружба*
*И вечно добрая душа.*

*Анна Ивановна.*

*26 марта нашей дорогой доченьке и сестричке Наталье МЕРЕЖКИНОЙ (г. п. Телеханы) исполняется 15 лет. Поздравляем . Желаем радости, отличного здоровья, достатка и верных друзей.*

*Мама и брат Олег.*

*Дорогие наши Алексей Иванович ХОМУТОВ, Сашенька НЕСТЕРОВИЧ и Ирина Васильевна ХОМУТОВА из г. Ивацевичи! Вы все родились в марте. Это время пробуждения природы. Поэтому желаем Вам бодрости, радости, крепкого здоровья.*

*Мы хотим, чтобы Ваши желанья,*
*Как бы не были велики,*
*Исполнялись бы утром ранним*
*Невозможному вопреки.*

*С любовью — семьи Нестеровичей и Хомутовых.*

*Любимого мужа и папочку Павла Ивановича ДУБИНКУ из г. п. Телеханы поздравляем с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, счастья, исполнения всех желаний.*

*Пусть будет все: гроза, метели,*
*Пусть будут радость и покой.*
*А если очень будет трудно,*
*То знай, что мы всегда с тобой.*

*Жена, дочь.*



*Нашу дорогую дочь, маму, сестру и свояченицу Галину Петровну ГОРБАЧ из д. Могилицы Ивацевичского района поздравляем с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, огромного счастья, любви и благополучия.*

*Родители, сын Димка, брат Саша, сестра Ольга и шурин Женя.*



*Прекрасного, дорогого мужа, отца и дедушку Ивана Ивановича ЕМЕЛЬЯНОВИЧА из д. Чемелы Ивацевичского района поздравляем с днём рождения. Желаем отличного здоровья, прекрасного настроения, благополучия в семье и всех земных благ.*

*Не беда, что годы быстро мчатся,*
*Серебристый оставляя след.*
*Мы тебе желаем много счастья,*
*Бодрости, здоровья, долгих лет.*

*С уважением — жена, сын, дочь, невестка, зять и внуки.*

*От всей души поздравляем с днём рождения Галину Петровну ГОРБАЧ из д. Могилицы Ивацевичского района. В этот прекрасный для тебя день нам хочется пожелать тебе всего самого лучшего: крепкого здоровья, море счастья, океан везения.*

*Пусть жизнь твоя всегда течёт рекою бурной*
*Среди цветущих в розах берегов.*
*И пусть всегда живут с тобою*
*Надежда, вера и любовь.*

*Твои друзья Светлана и Николай.*

*Милую мамочку и бабушку Галину Петровну ЩУР из г. п. Телеханы поздравляем с днём рождения. Желаем крепкого здоровья, счастья, всех земных благ.*

*С любовью — дети Ира и Андрей, внуки Павлик и Вика.*

"Газета для вас"

## КУПОН

для бясплатнай прыватнай аб'явы

ТЭКСТ

Прозвішча, імя і адрас
(звесткі не публікуюцца):

### Паважаныя падпісчыкі!

Гэты купон прызначаецца для бясплатнай прыватнай аб'явы. Яго трэба выразаць, напісаць на ім тэкст сваёй аб'явы ці віншавання і даслаць у рэдакцыю "Газеты для вас". Да віншавання можна прыкласці здымак таго, каго віншуюць. Фота мы таксама надрукуем. Калі тэкст віншавання не змяшчаецца на купоне, яго можна напісаць на асобным лістку.

Калі вы хочаце змясціць два-тры вершаваныя куплеты, неабходна заплаціць 200 тыс. руб. за кожны куплет.

Прысылаць купон неабходна за тыдзень-два да патрэбнай даты.

## ПРОДАЮТСЯ

### РАЗНОЕ

☞ Новые филёнчатые двери и новое окно. Телефон в Берёзе (8-243) 2-16-92.

☞ Новый кассовый аппарат "Интеграл-003". Телефон в Белоозёрске 29-5-78.

☞ Сахар и мука. Телефоны в Пружанах: (8-232) 7-21-36 (с 8.30 до 16.30) и (8-232) 7-14-18 (вечером).

☞ Компьютеры готовые и под заказ различных поколений и конфигураций от 286 до Pentium, обучение, обслуживание, ремонт; факс, автоответчик, радиотелефон; спутниковая антенна; копировальный аппарат; универсальный пульт. Всё б/у. Телефон в Ивацевичах 2-68-66 (спросить Сашу).

### БЫТОВАЯ ТЕХНИКА

☞ Цветной телевизор б/у. Телефон в Берёзе (8-243) 2-16-92.

☞ Новый цветной телевизор "Горизонт" (русское меню, телетекст, набор современных функций). Телефон в Ивацевичах 2-36-88.

☞ Стиральная машина "Чайка" с центрифугой (б\у) в отличном рабочем состоянии. Цена — 60 у. е. Телефон в Ивацевичах 2-65-62.

### НЕДВИЖИМОСТЬ

☞ Дом в д. Павлово Березовского района. Есть хозпостройки, приусадебный участок (30 соток), сад, водопровод, два подвала. Рядом проходит железная дорога. Обращаться: Березовский р-н, д. Малеч, ул. Кольцевая, 1. Телефон (8-243) 9-72 (спросить Нину).

☞ Новый дом в 2-х километрах от г. Ивацевичи. Не выполнены работы по подведению воды, газа, канализации. Телефон в Ивацевичском районе 45-3-24.

☞ Дачный участок в начале д. Озерцо Ивацевичского района, 30 соток, есть силовая линия, вагончик, фундамент под застройку, частично огорожен. Телефон в Ивацевичах 2-22-73 (после 18.00).

☞ Дом в д. Старые Пески Берёзовского района. Есть приусадебный участок (40 соток), телефон, газ, рядом — озеро. Телефон в Берёзе 2-23-02.

☞ Капитальный гараж в районе пивбара. Телефон в Ивацевичах 2-67-93.

☞ Однокомнатная квартира в малосемейном доме в г. Ивацевичи, по ул. 60 лет Октября. Телефон в Ивацевичах 2-50-54.

☞ Дом в д. Доманово. Есть хозпостройки и приусадебный участок (25 соток). Обращаться: г. Ивацевичи, ул. Коммунистическая, 12, кв. 14.

☞ Недостроенный дом или меняется на жилье в г. Ивацевичи. Рассмотрим любые варианты. Телефоны в Ивацевичском районе 58-2-48 (с 8.30 до 15.30), 58-2-19.

### АВТОМОБИЛИ, ЗАПЧАСТИ

☞ "Ауди-80" 1986 года выпуска, дизель и мотоцикл "Ява" 1963 г. в. Телефон в Берёзе (8-243) 2-16-92.

☞ Микроавтобус "Мерседес МВ-100" 1990 года выпуска. Телефон в Берёзе 2-55-27.

## МЕНЯЮ

☞ Двухкомнатную приватизированную благоустроенную квартиру в сельской местности (Ивацевичский р-н) на однокомнатную квартиру в Ивацевичах или Берёзе. Телефон в Берёзе (8-243) 2-19-50.

## КУПЛЮ

☞ Автомобиль "Запорожец" в хорошем состоянии, можно с ручным управлением. Телефон в Белоозёрске 28-0-70.

☞ Шины грузовые, тракторные и запчасти к МТЗ. Телефоны в Пружанах: (8-232) 7-21-36 (с 8.30 до 16.30) и 7-14-18 (вечером).

## СТОЛ НАХОДОК

☞ Найдена собака (щенок овчарки, 2—3 месяца), девочка, коричневый ошейник. Обращаться в Ивацевичах по телефону 2-52-49 (после 18.00).


**РЕМНИ**
к с/х технике и пром. оборудованию
Широкий выбор и низкие цены
двигатели ЯМЗ
рукава напорн,
подшипники
ленты конвейр.
ПКФ "Наутилус"
Брестская обл, г. Барановичи
ул. Брестская, 224 А
тел/ф (0163) 41-64-14

**Реализуем по низким ценам**
— станки деревообрабатывающие, настольные, многооперационные;
— плёнку полиэтиленовую парниковую, 100 мкр., ширина 3 м.
Доставка из Гомеля. Телефоны 8 (0232) 51-62-67; 51-49-69 (г. Гомель).
Свидетельство 23-709 от 19.03.97 г.


## СТУДЭНТАМ ДАПАМОЖА ЮРЫСТ



Юрыдычная кансультацыя маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі форум" (г. Пружаны) праводзіць кансультацыі для студэнтаў па прававых пытаннях. Звяртацца можна штодзённа з 18.00 да 19.00 на адрас: г. Пружаны, вул. Чырвонаармейская, 78 (4-ы паверх, кабінет № 2).

Пытанні можна задаць таксама па тэлефоне 2-12-23.


**Доктор Галицкий поможет с проблемами радикулита, остеохондроза, заикания, энуреза, алкоголя, проводит компьютерную диагностику.**
**г. Барановичи, ул. Царюка, 18. Тел. 2-46-58, 2-36-47 (с 11.00 до 14.00)**
**Лицензия 463 до 24.10.2002 г.**

